# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА

№3-4
ЛІСТАПАД-СНЕЖАНЬ
2000 года

БЮЛЕТЭНЬ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ



■ АСОБЫ НАДНЁМАНСКАГА КРАЮ

## КОНКУРС «ЧАЛАВЕК ХХ-га СТАГОДДЗЯ»



Няма больш славутага Беларуса ў сучасным замежжы, чым наш зямляк Барыс Кіт. Яго навуковыя дасягненні ў галіне астранаўтыкі прызнаны ва ўсім свеце.

Ён адзін з распрацоўшчыкаў першых амерыканскіх касмічных сістэм, вынаходнік вадароднага паліва для касмічных караблёў, дарадчык урада Злучаных Штатаў па астранаўтыцы, сістэмным аналізе, гісторык-навуковец, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі.

А на Радзіме – гэта незабыўны настаўнік беларускіх навучальных устаноў у Вільні, Наваградку, Маладзечне, Паставах.

Яго называюць грамадзянінам Свету.

## "ШЛЯХАМ БАРЫСА КІТА"

**Пад такой назвай з красавіка 2000 года рэалізуецца ідэя конкурсу, прысвечанага 90-годдзю з дня нараджэння сусветна вядомага Беларуса, акадэміка міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, віцэ-прэзідэнта міжнароднай акадэміі навук Еўразіі Б.У. Кіта.**

**Мэта конкурсу – азначэнне і пашырэнне даследаванняў і пошукаў моладзі (школьнікаў, навучэнцаў ПТВ, студэнтаў першых курсаў сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў) у галіне беларускамоўнага вывучэння матэматычных дысцыплін, гісторыі і геаграфіі Беларусі, стварэння адпаведных метадычных дапаможнікаў, афармлення спецыялізаваных класных памяшканняў і экспазіцый музеяў навучальных устаноў.**

**Асаблівая ўвага ўдзельнікаў конкурсу звяртаецца на адлюстраванне жыцця і дзейнасці настаўнікаў, выкладчыкаў, якія спалучалі ў сваёй педагагічнай дзейнасці высокае прафесійнае майстэрства і карыстанне беларускай мовай, выхоўвалі патрыётаў роднага краю, былі аматарамі краязнаўчай працы, школьнага музеязнаўства.**

**Конкурс распаўсюджваецца на рэгіёны Беларусі, дзе пралягаў драматычны і высакародны жыццёвы і педагагічны шлях Барыса Кіта: Карэліцкі, Наваградскі р-ны Гродзенскай вобласці, Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобласці, Маладзечанскі р-н і горад Маладзечна Мінскай вобласці, Пастаўскі і Глыбоцкі р-ны Віцебскай вобласці.**

**Зацікаўленых асобаў і прадстаўнікоў школ і ўстановаў сістэмы прафесійнай адукацыі просім да 1-га сакавіка 2001 года прысылаць заяўкі з паведамленнем дакладнага адрасу, спісу ўдзельнікаў конкурсу, тэмы конкурснай працы на адрас: г. Гродна, 230023, а/с 22 з пазнакай "Конкурс".**

**(Працяг на 4-й і 5-й стар.)**




Для краязнаўцаў кожны новы год прыносіць хвалюючыя спадзяванні: а раптам сёлета я адкрыю (знайду, падрыхтую і г.д.) нешта такое, што ўскалыхне зацікаўленых і не толькі іх?!

Каб гэта здарылася, "Краязнаўчая газета" жадае ўсім аматарам вывучэння роднага краю, яго прыроды і культуры, гісторыі, эканомікі і быту выдатнага здароўя, настойлівасці, апантанасці і ўдачы.

З Раством Хрыстовым, новым 2001 годам і XXI стагоддзем!

## ЯШЧЭ НЕ ПОЗНА

**Згодна з праграмай рэгіянальных канферэнцый Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі, абласное таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры сумесна з Бераставіцкім райвыканкамам рыхтуе навуковую гісторыка-краязнаўчую канферэнцыю *"Бераставіччына вачыма гісторыкаў"*.**

**Мерапрыемства адбудзецца ў лютым 2001 года. Аргкамітэт ўжо атрымаў 43 заяўкі на ўдзел.**

**Зацікаўленыя асобы могуць неадкладна звярнуцца да намесніка старшыні Таварыства Дзмітрыя Аляшкевіча (тэл. 44-90-41).**

■ УЛАСНАЕ МЕРКАВАННЕ

# ВЕДАЦЬ МІНУЛАЕ, КАБ БАЧЫЦЬ БУДУЧАЕ

**Прафесар кафедры беларускай культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы С.А. Габрусевіч узначальвае абласное аддзяленне Беларускага Фонда культуры, старшыня Беларускага краязнаўчага таварыства імя Т. Нарбута. Сяргей Аляксандравіч мяркуе аб перспектывах развіцця краязнаўчага руху.**

— Вам не даводзілася разважаць, чаму так цікава чытаюцца краязнаўчыя публікацыі? Бо там гісторыя жыцця людзей канкрэтнай мясціны насычана шматлікімі фактамі з тагачаснага побыту грамады. Гэта гістарычны доказ асаблівасці развіцця кожнага рэгіёна. У Беларусі шэсць абласцей, але няма падабенства ў гістарычным і культурным сэнсе. Паўсюдна назіраюцца свае, уласцівыя толькі дадзенаму краю, адметнасці. Яны выяўляюцца нават на ўзроўні раёна. У гэтым праяўляецца дыферэнцыяцыя развіцця. Тут няўзаранае поле для даследчыкаў-краязнаўцаў.

**— У той жа час аматары пошукавай работы Гродзеншчыны маюць на сваім рахунку нямала выдатных здабыткаў...**

— Гэта так. У кожным паселішчы знойдзецца асоба, якая цікавіцца мінулым сваёй вёскі, збірае рэдкія дакументы, прадметы быту мінулага, цікавіцца лёсам землякоў, якія з розных прычын пакінулі бацькоўскую хату, праявілі сябе ў розных галінах навукі і культуры не толькі ў Беларусі.

На больш высокім узроўні да краязнаўчай справы падключаюцца дзяржаўныя органы, напрыклад, таварыствы аховы помнікаў гісторыі і культуры, грамадскія таварыствы, навуковыя колы, скажам, гісторыкі дзяржаўнага універсітэта. Усе разам яны паклалі пачатак выдатнай традыцыі на Гродзеншчыне: праводзіць штогод краязнаўчыя чытанні ў раёнах вобласці, друкаваць матэрыялы гэтых паседжанняў.

Але гэтага, лічу, мала. Вобразна кажучы, здымаецца як бы верхні слой багатай гістарычнай спадчыны. Археалагічныя даследаванні ў многім базуюцца на працах вядомых вучоных. Адметныя постаці таксама знайшлі сваё адлюстраванне ў кнігах. Добра, што знаходзяцца новыя звесткі, дапаўняецца ранейшае. Аднак “местачковыя дробязі” па-ранейшаму застаюцца па-за ўвагай. Гэтую нішу павінны запоўніць краязнаўцы.

Часам назіраецца і палітычная заангажаванасць.

**— Атрымліваецца, што мае шырокае поле дзейнасці і краязнаўчае таварыства імя Тодара Нарбута?**

— Свае недапрацоўкі мы бачым. Пагэтаму цяпер імкнемся ўзняць краязнаўчую работу ў вобласці на новы ўзровень. Ствараючы Таварыства, ставілася задача пашырыць краязнаўчы рух як на Гродзеншчыне, так і ў Заходняй Беларусі. Планавалася распрацоўка праблем, да якіх раней не звярталіся. Увогуле, погляд на многія гістарычныя падзеі мінулага павінен быць іншым, чым гэта выкладзена ў палітызаваных вучэбніках.

Не скажу, што зроблена мала, аднак недастаткова. Паспяхова распачалі выдавецкую праграму. У 1995-1996 гадах мы друкавалі часопіс “Свіцязь”, у якім змяшчалі матэрыялы і даследаванні па азначанай тэматыцы. Выданне мела шырокі водгук чытачоў. Атрымалі многа аўтарскіх рукапісаў. Але недахоп сродкаў прымусіў прыпыніць справу. Маем надзею, што выданне будзе адноўлена.

**— Нядаўна было праведзена паседжанне Рады таварыства. У якім рэчышчы вялася гутарка?**

— Абмеркавалі задачы на бліжэйшы перыяд. Вырашылі правесці “рэвізію” краязнаўчай дзейнасці ў вобласці. Паглядзець, што зроблена, а што чакае наперадзе. Будзем пашыраць школьнае краязнаўства. Неабходна мець рэестр публікацый краязнаўчых даследаванняў Гродзеншчыны.

Трэба паставіць на трывалую аснову рэгулярныя творчыя сустрэчы з мясцовымі краязнаўцамі, усімі, хто займаецца гэтай дзейнасцю. Такія сувязі неабходна мацаваць. На месцах сабрана многа матэрыялаў. Іх трэба друкаваць. Дзе-нідзе назіраюцца арыгінальныя падыходы да краязнаўчай дзейнасці. Пра гэта будзем гаварыць на абласным краязнаўчым семінары, які плануем правесці у лютым у Лідзе.

**— Краязнаўчая дзейнасць мае шмат накірункаў. Якія, на вашу думку, надзённыя сёння?**

— Мяркую, што трэба больш грунтоўна і маштабна вывучаць традыцыі побыту беларусаў, іх рэальнае жыццё. У нашым краі выклікаюць цікавасць канфесійныя стасункі, гісторыя храмаў. Нямала паселішчаў знікла як “неперспектыўныя”. А яны ж мелі сваю гісторыю, сваіх жыхароў...

Думаю, што краязнаўства ратуе культуру ад уніфікацыі і аднастайнасці, надае гісторыі, калі хочаце, смак, пах, колеры праз адлюстраванне дэталяў даўнейшага рэальнага жыцця.

**Гутарыў Антон Лабовіч**

СКАРБЫ ГРОДЗЕНСКАЙ ЗЯМЛІ



**Замкавая гара ў Навагрудку заўсёды прыцягвае да сябе шматлікіх турыстаў. Сюды прыязджаюць наведвальнікі не толькі з Беларусі. Тут неаднаразова быў Барыс Кіт.**

# ПАВЕДАМЛЯЕ УПРАВА

22 снежня 2000 года адбылося паседжанне Управы Беларускага Краязнаўчага таварыства імя Т.Нарбута. Прынята рашэнне аб правядзенні 4-га лютага 2001 года канферэнцыі-семінара пашыранай рады таварыства.

Правамоцнымі ўдзельнікамі канферэнцыі з'яўляюцца сябры Управы таварыства: прафесар С. Габрусевіч (старшыня), прафесар Дз. Караў, доктар гістарычных навук А.Краўцэвіч, краязнаўцы Ул.Хільмановіч, А.Госцеў, С.Суднік, Я.Палубятка.

Удзел у канферэнцыі прымуць сябры Рады: Э.Корзун (Ашмянскі раён), І.Швек (Бераставіцкі р-н), Ул.Кананові (Ваўкавыскі р-н), І.Фясэнка (Воранаўскі р-н), І.Буднік (Гродзенскі р-н), В.Врублеўскі (Іўеўскі р-г), В.Сліўкін (Лідскі р-н), А.Сабасцян (Мастоўскі р-н), В.Шоць (Смаргонскі р-н), Т.Царук (Навагрудскі р-н), А.Майсяёнак (Гродзенская краязнаўчая Асацыяцыя).

Управа звяртаецца да краязнаўчага актыву і аб'яднанняў Астравецкага, Зэльвенскага, Карэліцкага, Дзятлаўскага, Слонімскага і Шчучынскага раёнаў дэлегаваць сваіх прадстаўнікоў для ўдзелу у канферэнцыі і каптацыі ў склад Рады.

На паседжанні Управы разглядаліся таксама прапановы па стварэнні краязнаўчага календара Гарадзеншчыны 2001 года, праекты спіса рэгіянальнага конкурса "Чалавек XX-га стагоддзя" і "Чалавек тысячагоддзя".

Паведамленні ці адпаведныя пратаколы просім пасылаць на адрас: 230023, г.Гродна, п\с 121.

**Уладзімір Хільмановіч,**
**адказны сакратар краязнаўчага таварыства імя Т.Нарбута**

# ЯГО МАЛЮНКІ – НАБЫТАК ЧАЛАВЕЦТВА

Беларускі шляхціч з маёнтка Варацэвічы, што пад Пінскам, Напалеон Орда (1807-1883) пакінуў каля 1150 малюнкаў і акварэляў. Прыкладна 270 ўзораў яго творчасці было змешчана ў розных прыжыццёвых выданнях.

Напалеон Орда спазнаў Гродзеншчыну. Ён атрымаў сярэднюю адукацыю ў Свіслацкім ліцэі. Віленскі ўніверсітэт закончыць не ўдалося. Прымаў удзел у паўстанні 1830-1831 гг. Атрымаў ордэн Віртуці Мілітары. Маёмасць была канфіскавана царскімі ўладамі, а сам апынуўся на эміграцыі. Далей былі дарогі Францыі, Нямеччыны, Італіі, Швейцарыі, Англіі, Іспаніі, Партугаліі...

Пасля аб'яўленай амністыі 1856 года мастак вяртаецца на радзіму. Маляваць пачаў на Украіне, пачаткова толькі ад захаплення краявідамі. Пасля публікацыі першых літаграфій, атрымаў заказы на малюнкі, і з 1870 да самай смерці падарожнічаў па розных губернях, фіксаваў на паперы шматлікія сведчанні мінулага – разбураныя замкі, вядомыя пабудовы, помнікі...

Пасля смерці Орда быў амаль забыты. Але пра яго памятала навука і калекцыянеры графікі. Цяпер творчасць мастака адлюстравана ў кнігах. Яго малюнкі старанна вывучаюць гісторыкі і архітэктары, краязнаўцы. Тое, чаго не існуе ўжо, засталося ў акварэлях Напалеона Орды. Гэта найкаштоўнейшая спадчына мастака.



**Малюнак Напалеона Орды (1870-е гг.). Фарны касцёл у Гродне.**

# КРАЯВІД – ГЭТА ЎСЁ, ШТО ВАКОЛ НАС

26 лістапада 2000 года ў Горадні адбыўся ўстаноўчы сход Гарадзенскага моладзевага краязнаўчага грамадскага аб'яднання "Краявід".

Сама моладзевая ініцыятыва стварэння "Краявіду" узнікла летам. У аргкамітэт увайшлі студэнты гарадзенскіх ВНУ. У першыя месяцы свайго існавання мы актыўна ўдзельнічалі ў мерапрыемствах іншых арганізацыяў. У якасці прыкладу можна ўзгадаць акцыю па ўшанаванню памяці стваральніка гарадзенскага гісторыка-археалагічнага музея Ю.Ядкоўскага. Краязнаўцы сабралі каля 200 подпісаў пад хадайніцтвам аб наданні вуліцы Спартыўнай назвы Набярэжная Юзэфа Ядкоўскага і аб усталяванні памятнай шыльды ў яго гонар...

Напярэдадні ўстаноўчага сходу пабачыў свет першы нумар бюлетэня "Дзядзінец". Былі прадуманы некалькі сталых рубрык, прысвечаных апошнім краязнаўчым падзеям, страчаным і забытым мясцінам Горадні, этнаграфічным матэрыялам, падзеям у самой суполцы.

Устаноўчы сход вывеў арганізацыю на новы ўзровень (абласны статус) і новы этап (дзяржаўная рэгістрацыя). На сходзе былі абраныя кіраўніцтва і кантрольна-рэвізійныя органы, прыняты статут. Галоўнай мэтай дзейнасці "Краявіду" вылучана дапамога ў пашырэнні краязнаўчага руху на Гарадзеншчыне, а таксама распаўсюджванне інфармацыі краязнаўчага зместу.

Калі ў сябра "Краявіду" Валеры Руселіка спыталі, якой ён бачыць арганізацыю, то пачулі адказ: "Бачу "Краявід" паважнай і моцнай арганізацыяй сямейнага кшталту (гэта калі ўсе сябры арганізацыі ёсць адна вялікая сям'я), дзе справы будуць сябраваць са словамі, а ініцыятывы – ахвотна ўвасабляцца!".

**Ясь Слівінскі**

**(Усіх зацікаўленых асобаў, арганізацый просім пісаць на адрас: 230009, г. Горадня, п\с-61. ГМКГА "Краявід").**

■ АСОБЫ НАДНЁМАНСКАГА КРАЮ

# ХРОНІКА ЖЫЦЦЯ БАРЫСА КІТА

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)

1910 г. 6 красавіка (24.4. па ст. стылю) у Санкт-Пецярбургу, у сям'і паштовага служачага Уладзіміра Аляксандравіча Кіта і рознарабочай Ксеніі Дзмітрыеўны Зуравай нарадзіўся сын Барыс.

1918 г. Сям'я вяртаецца ў в. Агароднікі (Цяпер у межах г.п. Карэлічы).

1920 г. Пасля смерці маці бацька жэніцца на Алёне Швед з в. Валеўка (Наваградчына).

1924-1926 гг. Вучоба Барыса ў пачатковай польскай школе, Карэлічы.

1926-1928 гг. Вучоба ў Беларускай гімназіі, Наваградак.

1928-1933 гг. Барыс – студэнт прырода-матэматычнага факультэта Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя.

1933 г. Атрыманне навуковай ступені магістра філасофіі ў галіне матэматыкі.

1931-1939 г. Выкладчык матэматыкі Віленскай Беларускай гімназіі.

1939 г. Дырэктар адноўленай Віленскай Беларускай гімназіі.

1940 г. Дырэктар адноўленай Наваградскай Беларускай гімназіі.

1940-1941 гг. Акруговы інспектар аддзела народнай адукацыі Баранавіцкай вобл., выкладчык матэматыкі ў Баранавіцкім пединстытуце. Жаніцьба на Ніне Корсак, родам з в. Лебедзева каля Маладзечна.

1941 г. Праца ў пачатковай школе ў в. Лебедзева. Нараджэнне сына Уладзіміра.

1942 г. Дырэктар і выкладчык настаўніцкай семінарыі ў Маладзечне. Закрыццё семінарыі акупацыйнымі ўладамі.

1942-1943 гг. Дырэктар Пастаўскай настаўніцкай семінарыі Глыбоцкай акругі.

1943 г. Арышт і зняволенне ў Глыбоцкай і Вілейскай турмах, вызваленне пры дапамозе былых вучняў Віленскай гімназіі.

1943-1944 г. Дырэктар адміністратыўна-гандлёвай школы ў Маладзечне.

1944 г. Студэнт Магілёўскага навукова-медычнага інстытута.

1945-1948 гг. Студэнт медыцынскага факультэта Мюнхенскага універсітэта імя Людвіга Максімільяна (Нямеччына).

1948-1956 гг. Праца ў якасці хіміка на фармацэўтычных фірмах Нью-Джэрсі і Каліфорніі (ЗША). Нараджэнне сына Віктара (Лос-Анджэлес).

1956-1958 гг. Навуковы супрацоўнік фірмы North American aviation, Inc. (Сучасная Rockwell International). Удзел у праграмах распрацоўкі вадароднага паліва для касмічных сістэм Navaho і Apollo.

1958-1963 гг. Кіраўнік навуковай групы аддзела касманаўтыкі МПС ЗША.



1960 г. Выданне кнігі "Rocket Propellant Handbook" (сумесна з Evered Douglas).

1963-1964 гг. Старшы навуковы супрацоўнік ІТТ – Міжнароднай тэлефонна-тэлеграфнай карпарацыі.

1964 г. Выданне кнігі "USSR Space Research and Development" (Сумесна з Ordwey Frederick).

1964-1968 гг. Старшы навуковы супрацоўнік нацыянальнага бюро стандартаў ЗША.

1968-1972 гг. Старшы эксперт-даследчык Дзяржаўнага Інстытута сістэмнага аналізу Ваеннага і транспартнага Міністэрстваў ЗША. Удзел у распрацоўцы стратэгіі спутнікавых камунікацый і транспартных праблемаў.

1972-1993 гг. Прафесар матэматыкі Еўрапейскага аддзела амерыканскага Мэрылендскага універсітэта.

1983 г. Атрыманне навуковай ступені доктара навук на падставе абароны дысертацыі "Антоні Зыгмунт, яго жыццё і яго ўклад у матэматыку XX-га стагоддзя" (Універсітэт Рэгенсбург, ФРГ).

1986 г. Узнагароджанне залатым медалём Таварыства Германа Обэрта (вывучэнне сусветнай прасторы) за гісторыка-навуковыя доследы.

1991 г. Абранне членам-карэспандэнтам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж).

1994 г. Абранне сапраўдным сябрам (акадэмікам) Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж).

1994 г. Заснавальнік і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (Мінск-Масква).

1994 г. Прыезд Барыса Кіта на Бацькаўшчыну з нагоды адкрыцця Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (Мінск) – Мір, Карэлічы, Навагрудак, Маладзечна.

1994 г. Прысуджэнне навуковай ступені ганаровага доктара навук Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы..

1995 г. Другі прыезд Барыса Кіта ў Беларусь. Наведанне Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы, Інстытутаў НАН, установ культуры Гродзеншчыны.

1995 г. Узнагароджанне Барыса Кіта залатым медалём Германа Обэрта на стужцы за ўклад у развіццё касманаўтыкі Міжнародным таварыствам астранаўтыкі імя Германа Обэрта і Вернера фон Браўна (ФРГ).

1996 г. Публікацыя ў Беларусі кнігі Лідзіі Савік "Космас беларуса: жыццяпіс Барыса Уладзіміравіча Кіта, асветніка, вучонага, патрыёта".

1998 г. Другое выданне кнігі "Космам беларуса".

1999 г. Публікацыя ў Вільні кнігі А.Чэмера "Выбраныя Богам. Жыццё і дасягненні вялікага матэматыка Барыса Кіта".

**Андрэй Майсяёнак,**
**старшыня Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі.**

# СПАДЧЫНА БАРЫСА КІТА

У лютым 1993 года Барыс Кіт перадаў свой наву-ковы і асабісты архіў ў Навагрардскі гісторыка-краязнаўчы музей. Была створана экспазіцыя, прысвечаная славутаму земляку. Партрэт акадэміка намалявала вядомая беларуская мастачка Раіса Сіплевіч.

Вясной 2000 года ў Гродне была наладжана ўрачыстая вечарына, прысвечаная 90-годдзю Барыса Уладзіміравіча. Прысутнічалі аўтары кніг "Космас Беларуса" Лідзія Савік і "Выбраныя Богам" Андрэй Чэмер.

# ЦІХІМ КРОКАМ ПА РОДНАЙ ЗЯМЛІ

У верасні 1944 года Барыс Кіт наведаў родныя мясціны. Былая вёска Агароднікі злілася з Карэлічамі. Колішняя вуліца называецца цяпер Акцябрская. На тутэйшых могілках пахаваны бацька – Уладзімір Аляксандравіч.

У Навагрудку яму прысвоілі пачэснае званне ганаровага грамадзяніна. Цёплыя словы сказалі Вольга Іпатава, Тамара Вяршыцкая, Аляксей Анішчык, Самсон Пярловіч, Таццяна Царук, Яўген Шостак, кіраўнікі горада і раёна.

Высокі госць наведаў гістрыка-краязнаўчы музей, фатаграфаваўся на памяць з гасціннымі гаспадарамі.



**Барыс Кіт у Навагрудскім гісторыка-краязнаўчым музеі. Восень 1994 г.**

# СУСТРЭЧЫ Ў ГРОДНЕ

Упершыню восенню 1994 года Барыс Кіт наведаў старажытную Каложскую царкву, Інстытут біяхіміі, Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт, усклаў кветкі да помніка Янку Купалу, барэльефа Рыгора Шырмы. Між іншым заўважыў, што Гродна не менш цікавы і прыгожы горад, чым еўрапейскія гарады і сталіцы.

З горадам акадэміка знаёмілі доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч і доктар біялагічных навук Вячаслаў Бука.

Надзвычай цікава прайшла сустрэча са студэнтамі фізіка-матэматычнага факультэта. Вучоны адказаў на шматлікія пытанні, прачытаў рэферат пра даследаванне і перспектывы палёту на Марс.



**Гэты здымак быў зроблены ў Віленскай беларускай гімназіі. На адваротным баку фота пазначана: краязнаўчы гурток. У другім радзе другі справа - выкладчык Барыс Кіт. Побач з ім - дырэктар гімназіі Р. Астроўскі.**

**Імёны астатніх, на жаль,не вядомы. Калі нашы чытачы могуць падказаць, калі ласка, паведаміце ў бюлетэнь «Краязнаўчая газета»**

# ЯНЫ ПРАЦАВАЛІ РАЗАМ

Барыс Кіт шырока вядомы, як аўтар падручніка (1960) аб паліве для ракетнай тэхнікі. Прадмову напісаў стваральнік сучаснай аэрадынамікі Тэадор фон Карман.

Сярод яго знаёмых былі адзін з трох найвялікшых піянераў астранаўтыкі Герман Обэрт, прэзідэнт Астранаўтычнага таварыства імя Германа Обэрта Густаў Штаац, распрацоўшчык ракет "Рэдстоўн", "Юпітэр", "Сатурн" — носьбітаў для "Апола" Вернер фон Браўн, стваральнік квантавай механікі Вернер Гейзенберг, акадэмік Д.Блахінцаў і інш.

Біяграфія Б.Кіта змешчана ў наступных энцыклапедычных выданнях: Who's who in Space (ЗША, 1962), Leaders in American Science (ЗША, 1964), Two Thousand Men of Achievement (Англія, 1972), Royal Blue Book (Англія, 1973), American Men of Science (ЗША,1975), Энцыклапедыя гісторыі Беларусі (т.4, 1997), Беларуская Энцыклапедыя (т.8, 1999), Who is who Deutschland (ФРГ, 2000).

# АЎТОГРАФ АКАДЭМІКА

І нягледзячы на ўсё, я адчуваю сябе шчаслівым і ўдзячным Богу за ўсё маё доўгае жыццё і што я змог ажыццявіць пэўныя паспяховыя рэчы, для сябе, для нашай Бацькаўшчыны і ўсяго свету.

Аддаю Вам заўсёды

Кіт

(Кнігу «Космас беларуса» можна набыць у кнігарні «Слова» - вул.Элізы Ажэшкі, 38)

■ ШКОЛЬНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА



# МОЛАДЗЬ БЫЛА НЕ ЛІШНЯЙ

28-29 чэрвеня 2000 года ў Гродне адбылася канферэнцыя маладых краязнаўцаў вобласці. Пленарнае паседжанне адкрыў сябра Рады абласной краязнаўчай асацыяцыі А.Госцеў. З прывітальным словам да дэлегатаў звярнуўся старшыня абласной краязнаўчай асацыяцыі, член-карэспандэнт НАН, прафесар Андрэй Майсяёнак.

Прысутныя праслухалі паведамленні "Метадалогія школьнага краязнаўства", "Літаратурнае краязнаўства ў школе", "Месца археалогіі ў краязнаўчай працы школы", "Школьнае краязнаўства як уводзіны ў культуралогію", сутнасць якіх раскрылі адпаведна Н.Катовіч, А.Пяткевіч, С.Піваварчык, А.Госцеў.

Многія вучні школ выступілі з уласнымі рэфератамі ў час работы секцый "Культуралогія", "Гістарычнае краязнаўства", "Літаратура і мова", "Экалогія і прыродазнаўства", а таксама актыўна ўдзельнічалі ў абмеркаванні актуальных задач краязнаўства і праблем моладзевай краязнаўчай суполкі вобласці.

Удзельнікі канферэнцыі прынялі адпаведныя пастановы. Лепшыя юныя краязнаўцы былі ўзнагароджаны падарункамі.

У рабоце канферэнцыі прымалі ўдзел дацэнт кафедры педагогікі ГрДУ, кандыдат педагагічных навук Іна Карпюк; прафесар, доктар гістарычных навук Дзмітрый Караў; дацэнт кафедры філасофіі ГрДУ, кандыдат культуралагічных навук Сяргей Данскіх; дацэнт ГрДУ, кандыдат гістарычных навук Генадзь Семянчук; настаўнік гісторыі СШ № 21 г. Гродна Анатоль Смірноў.

**На здымку: праца ў секцыях.**

# СТАТУТ ПРАДУГЛЕДЖВАЕ...

Сябры Згуртавання школьных краязнаўцаў Гродзеншчыны (далей — ЗШК) абмеркавалі і зацвердзілі Статут сваёй арганізацыі.

Гэта добраахвотная грамадская арганізацыя, дзейнічае на тэрыторыі вобласці, аб'ядноўвае навукоўцаў, выкладчыкаў, настаўнікаў навучэнцаў школ і вучылішчаў, студэнтаў, метадыстаў навучальных устаноў, усіх аматараў гісторыі, прыроды і культуры краю, якія спрыяюць развіццю школьнага краязнаўства.

Мэтай дзейнасці ЗШК з'яўляецца згуртаванне прыхільнікаў школьнага краязнаўчага руху дзеля выхавання вучнёўскай моладзі сродкамі прыродаахоўнай, турыстычнай, музейнай і навуковай краязнаўчай дзейнасці.

Сярод задач ЗШК вылучаюцца: стварэнне і каардынацыя дзейнасці мясцовых суполак Згуртавання; супрацоўніцтва з навуковымі ўстановамі краіны; прапаганда ведаў пра родны край праз друкаванне вынікаў краязнаўчай працы сяброў ЗШК; арганізацыя летнікаў, экспедыцый і паходаў краязнаўчага кірунку; спрыянне развіццю школьных музеяў Гродзеншчыны; арганізацыя краязнаўчых конкурсаў і выставак; пошук і ўдасканаленне сучасных форм арганізацыі краязнаўчай дзейнасці.

Сябры ЗШК будуць актыўна арганізоўваць і ўдзельнічаць у навукова-практычных канферэнцыях, метадычных семінарах, дыспутах, "круглых сталах", а таксама выдаваць праз друк метадычныя распрацоўкі, зборнікі, краязнаўчыя матэрыялы і календары.

Плануецца правядзенне лекцый па краязнаўчай тэматыцы ў школах вобласці, удзел ва ўсіх грамадскіх і культурных мерапрыемствах і акцыях, якія ладзяцца дзяржаўнымі і недзяржаўнымі адукацыйнымі, культурнымі, спартова-турыстычнымі ўстановамі і таварыствамі Гродзеншчыны.

Значная ўвага будзе нададзена збіранню інфармацыі пра дзейнасць краязнаўцаў вобласці розных часоў.

# РАДА АТРЫМАЛА ДАРУЧЭННІ

Удзельнікі першага ўстаноўчага з'езда Згуртавання школьных краязнаўцаў Гродзеншчыны зацвердзілі праект Статута сваёй арганізацыі.

Была абрана Рада Згуртавання ў наступным складзе: Т.Еўдакімава, А.Майсяёнак, А.Белакоз, А.Госцеў, В.Карнялюк, С.Клёсаў, У.Кананович, В.Вялента, А.Місюк, А.Смірноў, І.Фясенка, А.Смалянчук, Т.Казак, Ю.Малышка, Н.Сінкуць, А.Кравец, І.Лукашык, Э.Корзун, С.Піваварчык, А.Леановіч, М.Жук, Т.Сурага, Л.Грыгаровіч, Г.Міхальская, А.Хамякова, В.Шоць, Т.Барташэвіч, В.Філіповіч, А.Курнік.

Старшынёй Рады Згуртавання школьных краязнаўцаў Гродзеншчыны абраны А. Госцеў. Яго намеснікамі сталі С.Піваварчык, В.Карнялюк, А.Кравец.

Ганаровым старшынёй прапанаваны Заслужаны дзеяч культуры Беларусі Алесь Белакоз.

Радзе Згуртавання даручана падрыхтаваць неабходныя дакументы для рэгістрацыі арганізацыі, распачаць работу над перспектыўным планам дзейнасці на бліжэйшыя два гады.

# ДЭЛЕГАТАЎ БЫЛО ШМАТ

Канферэнцыя маладых краязнаўцаў сабрала ў зале 70 дэлегатаў з вобласці. Прадстаўнічая група была з Гродна – 26 чалавек. Сваіх пасланцоў прыслалі Ваўкавыскі, Слонімскі, Навагрудскі, Іўеўскі, Свіслацкі, Лідскі, Мастоўскі, Ашмянскі, Гродзенскі раёны. Сярод удзельнікаў мерапрыемства былі прадстаўнікі Віцебскай і Брэсцкай абласцей, а таксама горада Мінска.

■ НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА

# ЖЫЦЦЁ, ЯК НА ДАЛОНІ

Гродзенскаму дзяржаўнаму гісторыка-археалагічнаму музею споўнілася 80. Гэтай падзеі 30 лістапада 2000 года была прысвечанана ўрачыстасць, арганізаваная работнікамі музея і ўпраўленнем культуры аблвыканкама.

Удзельнікі вечарыны даведаліся пра гісторыю стварэння музея, які быў адчынены 9 снежня 1920 года па ініцыятыве мясцовага археолага Ю.Ядкоўскага. Цяпер культурная ўстанова мае больш, як 20 экспазіцый, звыш 100 тысяч экспанатаў асноўнага фонда, размешчаных у шматлікіх аддзелах музейнай экспазіцыі. Ёсць сапраўдныя літаратурныя старажытныя рэрытэты за 1597, 1614 гады, рукапісныя граматы XVI-XVIII стагоддзяў.

Акрамя ўрачастай часткі было адкрыццё выстаўкі "Шлях, даўжынёю ў 80 гадоў". У яе падрыхтоўцы ўдзел прыняў вядомы гродзенскі фотамастак Міхась Анішчанка. У фондах былі падабраны рэдкія экспанаты.

Супрацоўнікі музея Валянціна Царук, Надзея Труханові́ч, мастак Чэслаў Рой падрыхтавалі выстаўку "Вобразы далёкія і блізкія". Прысутным былі паказаны калекцыі жаночай і мужчынскай вопраткі розных часоў.

Арганізатараў і гасцей вечарыны з музеяў усіх абласцей Беларусі і Мінска віталі артысты "Гродзенскай капэлы".

**Алена Віктаровіч**

# АРХЕАЛАГІЧНЫ ЛЕТНІК

Навагрудак – адзін са старажытнейшых гарадоў Беларусі. Яго гісторыя заўсёды прыцягвала ўвагу гісторыкаў і краязнаўцаў. Напісана некалькі кніг, вялікая колькасць артыкулаў. Але тым не менш цікавасць да мінулага Навагрудка не знікае. Асабліва тут шчыруюць археолагі. На працягу некалькіх палявых сезонаў даследуюцца як тэрыторыя самога горада, так і яго акруга.

У жніўні 2000-га года па ініцыятыве Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі быў арганізаваны археалагічны летнік. У ім прынялі ўдзел студэнты Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, сябры археалагічнага гуртка гістарычнага факультэта, моладзь Навагрудка і іншых гарадоў Беларусі.

Археалагічныя даследаванні праводзіліся па помніку, вядомаму ў літаратуры, як Малы замак. Гэтая частка горада ў XI – XIII-м стагоддзях выконвала функцыі рамеснага пасаду. Тут пражывала насельніцтва, якое абслугоўвала княскую частку горада – дзядзінец (Замкавая гара).

Раскопкі на Малым Замку праводзіліся ў 1955-1985 г.г. археалагічнай экспедыцыяй пад кіраўніцтвам Фрыды Давыдаўны Гурэвіч. Вынікі даследаванняў апублікаваны ў яе манаграфіі "Древний Новогрудок. Посад – окольный город", якая выйшла ў Ленінградзе ў 1981 годзе. Агульная плошча Малога замка складае некалькі гектараў і недаследаванай засталася паўднёва-заходняя частка помніка, паколькі была шчыльна забудавана. Менавіта гэтая частка і стала аб'ектам археалагічнага даследавання палявога сезону 2000-га года.

Раскоп быў закладзены на тым месцы, дзе да 1999 года знаходзіўся будынак млына. Па меркаванню М.А.Ткачова, на гэтым месцы ў канцы XIII-га стагоддзя была пабудавана чатырохвугольная вежа, аналагічная "Шчытоўцы" на Замку. Яна знаходзілася ў сістэме абарончых збудаванняў дзядзінца і акольнага горада старажытнага Навагрудка.

У XV-м стагоддзі ў выніку баявых дзеянняў яна была разбурана, але ў XVI-м адбудавана ў форме васьмівугольніка. У вайну 1654-1667 гг. вежа ізноў была разбурана. У канцы XVIII-га стагоддзя на яе падмурках узвялі млын, рэшткі якога прастаялі тут да 1999 года.

Пасля канчатковага разбурэння млына з'явілася магчымасць археалагічнага даследавання гэтай часткі помніка, вывучэння сістэмы фартыфікацый сярэднявечнага Навагрудка, праверкі меркавання Міхася Ткачова. Таму і быў арганізаваны археалагічны летнік "Навагрудак–2000".

Агульная плошча археалагічнага раскопа склала 224 квадратныя метры. Пад час даследаванняў ускрыты рэшткі дзвюх розначасовых мураваных пабудоў, верагодна, абарончага прызначэння. Сабрана вялікая колькасць археалагічнага матэрыялу: індывідуальных (585) і масавых (некалькі тысяч) знаходак. У асноўным гэта прадметы быту і ўзбраення – рэшткі керамічнага і шклянога посуду, нажы, замкі, пацеркі, бранзалеты, кафля і г.д.

Усе знаходкі перададзены ў фонды Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі і праходзяць навуковую апрацоўку.

**Сяргей Піваварчык**

# СТВОРАНА ТАВАРЫСТВА



КРАЯЗНАЎЦА № 1 2000 г.

Інфармацыйны бюлетэнь Ваўкавыскага рэгіянальнага краязнаўчага таварыства
*На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна*

Ваўкавыскае рэгіянальнае краязнаўчае таварыства выдала ў 2000 годзе першы нумар інфармацыйнага бюлетэня "Краязнаўца". Адказны за выпуск Ул.Кананові́ч змясціў матэрыялы ўдзельнікаў семінара "Краязнаўства –крыніца свядомасці", які адбыўся ў гэтым горадзе.

Апублікаваны артыкулы кандыдата гістарычных навук Г. Семянчука ("Актуальныя праблемы вывучэння гісторыі Ваўкавышчыны"), выкладчыка універсітэта А.Чарнякевіча ("Палітыка польскіх школьных уладаў у Ваўкавыску падчас польска-савецкай вайны 1919-1920 г.г."), гісторыкаў з Гродна Ул. Хільмановіча ("Праблемы складання рэгіянальнага краязнаўчага календара") і А.Госцева ("Методыка краязнаўчай працы на ўроках і на пазакласных занятках").

У час семінара багатым досведам падзяліліся Алесь Белакоз, Валянцін Хмара, Алесь Ляскоўскі.

Створана раённае краязнаўчае таварыства. Старшынёй абраны кандыдат гістарычных навук Генадзь Семянчук, намеснікам – выкладчык Ваўкавыскага педвучылішча Уладзімір Кананові́ч.

**Ул. Хільмановіч**

■ *КРАЯЗНАЎЧЫ КАЛЯНДАР–2001*

# АСОБЫ І ПАДЗЕІ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

**625 гадоў** пачатку княжэння ў Горадзене Вітаўта(1376), князя ВКЛ, Рускага і Жамойцкага ў 1392-1430 г.г.

**415 гадоў** з дня смерці караля польскага, князя ВКЛ Стэфана Баторыя (1533-1586). Памёр і анатаміраваны ў Гродне.

**250 гадоў** завяршэння пабудовы Новага замку ў Гродне (1751). Архітэктар М.Д.Пепельман.

**225 гадоў** заснавання А.Тызенгаўзам у Гродне медычнай Акадэміі, стварэння камерцыйнай канторы замежных гандлёвых зносін, выдання польскамоўнай "Газеты Гродзеньскай" (1776).

**200 гадоў** пачатку выдання ў Гродне "Календара Гродзенскага" (1801).

**140 гадоў** стварэння К.Каліноўскім, В. Урублеўскім, Ф.Ражанскім Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі (1861).

***СТУДЗЕНЬ***

1. 140 гадоў з дня нараджэння акадэміка Я.Карскага (1861-1931), філолага-славіста, заснавальніка беларускай філалогіі, мовазнаўства, фалькларыстыкі, аўтара трохтомнай працы "Беларусы".

16. 175 гадоў з дня нараджэння Рамуальда Траўгута (1826-1864). Выпускнік Свіслацкай гімназіі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863-1864 г.г. у Польшчы, Літве і Беларусі.

***САКАВІК.***

10. 75 гадоў з дня нараджэння Васіля Супруна (1926). Нарадзіўся ў в. Глоўсевічы Слонімскага р-на. Беларускі пісьменнік і краязнаўца. Жыве ў Слоніме.

12.10 гадоў памятнаму знаку вязням Гродзенскага гета па вул. Замкавай. Дзень памяці ахвяр гета.

30. 70 гадоў з дня нараджэння Аляксея Пяткевіча (1931). Беларускі літаратуразнаўца, культуролаг, член СП Беларусі (1971), прафесар, загадчык кафедры беларускай культуры ГрДУ імя Я.Купалы.

***КРАСАВІК***

17.110 гадоў з дня нараджэння першага старшыні БНР Язэпа Варонкі (1891-1952). Вядомы публіцыст. Падбіраў кадры для беларускага ўніверсітэта, адкрываў беларускія школы. У 1923 г. пераехаў у ЗША.

29. 70 гадоў з дня смерці акадэміка Я.Ф.Карскага (1861-1931).

***МАЙ***

17.15 гадоў з дня адкрыцця ў Гродне дома-музея Максіма Багдановіча (1986).

25. Дзень памяці паэта Максіма Багдановіча. Памёр у 1917 г.

28.120 гадоў з дня нараджэння аднаго са стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай Грамады (1903), арганізатара газеты "Наша Ніва", Беларускага музея ў Вільні, археолага Івана Луцкевіча (1881-1919). Па прапанове братоў І. і А. Луцкевічаў была абвешчана незалежнасць БНР.

***ЧЭРВЕНЬ***

18.195 гадоў з дня нараджэння ўдзельніка нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі Міхала Валовіча. Нарадзіўся ў маёнтку Парэчча Слонімскага павета.

18. 90 гадоў з дня нараджэння Заслужанага дзеяча культуры Беларусі А.К.Шыдлоўскага. Нарадзіўся ў 1911 г. у в. Мінкі Смаргонскага раёна. Жыве ў Гродне.

***ЛІПЕНЬ***

7. 65 гадоў акадэміку НАН Беларусі Анатолю Свірыдзёнку (1936). Вядомы вучоны ў галіне фізікі і механікі паверхняў, матэрыялазнаўства і трыбалогіі. Лаўрэат Дзяржпрэміі. З 1990 г. жыве і працуе ў Гродне.

1. 505 гадоў надання г. Гродна поўнага Магдэбургскага права.

15.125 гадоў з дня нараджэння паэтэсы Цёткі (Алаіза Пашкевіч, 1876-1916). Нарадзілася ў в. Стары Двор Шчучынскага раёна.

24. 240 гадоў з дня нараджэння Якуба Ясінскага (1761-1794), кіраўніка атрадаў на Гарадзеншчыне ў час паўстання пад кіраўніцтвам А.Т.Касцюшкі.

***ЖНІВЕНЬ***

15.170 гадоў з дня нараджэння беларускага і польскага паэта, журналіста Вінцэся Каратынскага (1831-1891). Нарадзіўся ў в. Селішча Карэліцкага раёна.

***ВЕРАСЕНЬ***

9. 65 гадоў з дня нараджэння Сяргея Габрусевіча (1936). Прафесар кафедры беларускай культуры ГрДУ імя Я.Купалы, старшыня Гродзенскага аддзялення Беларускага фонда культуры, БКТ імя Т.Нарбута.

***КАСТРЫЧНІК***

10. 105 гадоў з дня смерці Багдановіч (Мякота) Марыі Апанасаўны (1869-1896), маці класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Пахавана на праваслаўных могілках у Гродне.

***ЛІСТАПАД***

26. 110 гадоў з дня нараджэння Янкі Станкевіча (1891-1976). Нарадзіўся ў в. Арляняты Смаргонскага р-на. Мовазнаўца, гісторык, педагог.

***СНЕЖАНЬ***

9. 110 гадоў з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта, перакладчыка, крытыка, гісторыка літаратуры Максіма Багдановіча (1891-1917). Нарадзіўся ў Мінску. У 1892-1896 г.г. жыў у Гродне.

21. 205 гадоў з дня нараджэння паэта, удзельніка нацыянальна-вызваленчага руху Тамаша Зана (1796-1855). Працаваў ў Гродне (1841).

26.100 гадоў з дня нараджэння беларускага генетыка і селекцыянера, акадэміка, прэзідэнта АН БССР, Заслужанага дзеяча навукі Беларусі Антона Жэбрака (1901-1965). Нарадзіўся ў в. Збляны Зэльвенскага р-на.

27. 165 гадоў з дня нараджэння дзеяча беларускага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху Валерыя Урублеўскага (1836-1908). Нарадзіўся ў мястэчку Жалудок Шчучынскага раёна.

Бюлетэнь «Краязнаўчая газета»

Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна. Адрас: 230023 г. Гродна, п/с 22.

Наклад 299 асобнікаў
Адказны за выпуск Сцяпан Ярашчук
Дызайн і вёрстка Адам Кір'яцкі

Бюлетэнь дабрачынна падрыхтаваны сябрамі краязнаўчых суполак і аб'яднанняў Гродна пры падтрымцы Інстытута адкрытага грамадства (Парыж) і абласнога аб'яднання "Ратуша"

kamunikat.org